# Голас Радзімы

№ 7 (1993)
12 лютага 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



На гэтым здымку вы бачыце Марыю БАРСУКОВУ, народную майстрыху са славутай вёскі Неглюбкі, што на Гомельшчыне. Сваё непаўторнае ўменне яна пераняла ад маці, іншых колішніх рукадзельніц. Толькі тым прыходзілася займацца ткацтвам, вышыўкай, перш за ўсё, у сілу жыццёвай неабходнасці. Для Марыі Сцяпанаўны ж важная магчымасць рэалізаваць творчыя задаткі, уласнае бачанне свету. У гэтым майстрыху падтрымлівае і грамадства, і дзяржава. Паглядзіце, як горда і ўпэўнена яна адчувае сябе сярод гэтых цудоўных рэчаў, зробленых яе залатымі рукамі.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

# САКАЛОЎ Яфрэм Яўсеевіч

## ПЕРШЫ САКРАТАР ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

6 лютага 1987 года адбыўся пяты пленум ЦК Кампартыі Беларусі, які разгледзеў арганізацыйнае пытанне. У сувязі з выбраннем М. Слюнькова сакратаром ЦК КПСС ён вызвалены ад абавязкаў першага сакратара і члена Бюро ЦК Кампартыі Беларусі.

Першым сакратаром і членам Бюро Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі выбраны Яфрэм Сакалоў.



Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў нарадзіўся 25 красавіка 1926 года ў в. Равячына Горацкага раёна Магілёўскай вобласці, беларус. Адукацыя вышэйшая: у 1956 годзе закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, а ў 1961 годзе — Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Член КПСС з 1955 года.

У 1944—1950 гадах служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў шафёрам. З 1956 года, пасля заканчэння сельскагаспадарчай акадэміі, — галоўны аграном, дырэктар МТС, начальнік Іванаўскай раённай сельскагаспадарчай інспекцыі, другі сакратар Іванаўскага райкома Кампартыі Беларусі.

У 1961—1965 гадах быў першым сакратаром Урлюцюбскага райкома Кампартыі Казахстана, парторгам Паўладарскага абкома партыі, сакратаром парткома Жалезінскага вытворчага саўгасна-калгаснага ўпраўлення Паўладарскай вобласці. З 1965 па 1977 год працаваў старшынёй Брэсцкага абкома прафсаюза рабочых і служачых сельскай гаспадаркі і нарыхтовак, першым сакратаром Іванаўскага райкома партыі, намеснікам загадчыка, загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела ЦК Кампартыі Беларусі.

З сакавіка 1977 года — першы сакратар Брэсцкага абласнога камітэта Кампартыі Беларусі.

На XXVI з'ездзе партыі выбраны кандыдатам у члены Цэнтральнага Камітэта КПСС і на XXVII з'ездзе — членам Цэнтральнага Камітэта КПСС. Член ЦК Кампартыі Беларусі. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР.

Герой Сацыялістычнай Працы, узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і многімі медг  і.

З ПАВЕДАМЛЕННЯЎ ТАСС

## У ПАЛЁЦЕ «САЮЗ ТМ-2»

У адпаведнасці з праграмай даследавання касмічнай прасторы 6 лютага 1987 года ў Савецкім Саюзе ажыццёўлены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-2», пілатуемага экіпажам у саставе камандзіра карабля двойчы Героя Савецкага Саюза лётчыка-касманаўта СССР палкоўніка Юрыя Раманенкі і бортінжынера Аляксандра Лавейкіна.

Ю. Раманенка зрабіў два касмічныя палёты: першы ў 1977—1978 гадах на караблі «Саюз-26» і арбітальнай станцыі «Салют-6», другі — у верасні 1980 года на караблі «Саюз-38» у якасці камандзіра міжнароднага савецка-кубінскага экіпажа, які праводзіў даследаванні і эксперыменты на станцыі «Салют-6».

А. Лавейкін у атрад касманаўтаў быў залічаны ў 1978 годзе. Ён прайшоў поўны курс падрыхтоўкі да касмічнага палёту на караблі «Саюз-ТМ» і арбітальнай станцыі «Мір».

8 лютага адбылася стыкоўка касмічнага кар  «Саюз ТМ-2» з арбітальным  мплексам «Мір» — «Прагрэс-27». Пасля праверкі герметычнасці стыковачнага вузла касманаўты Юрый Раманенка і Аляксандр Лавейкін перайшлі ў памяшканне станцыі.

Праграмай палёту прадугледжваецца стварэнне пастаянна дзейнічаючага арбітальнага комплекса са спецыялізаванымі модулямі навуковага і народнагаспадарчага прызначэння. На барту комплекса касманаўтам трэба будзе выканаць шырокую праграму астрафізічных, геафізічных, тэхналагічных і медыка-біялагічных даследаванняў і эксперыментаў.

НА ЗДЫМКУ: Юрый РАМАНЕНКА і Аляксандр ЛАВЕЙКІН.



ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ПАРТЫЙНЫ ДЗЕЯЧ З ЮГАСЛАВІІ

У Беларусі пабываў член ЦК Саюза камуністаў Югаславіі, старшыня рэспубліканскай канферэнцыі Сацыялістычнага саюза працоўнага народа Сербіі Богдан Трыфунавіч.

Госць быў прыняты сакратаром ЦК КПБ В. Пячэннікавым. і выступіў з лекцыяй на Мінскім трактарным заводзе. Богдан Трыфунавіч сустрэўся з рабочымі і інжынерна-тэхнічнымі работнікамі шэрагу іншых працоўных калектываў Мінска і Брэста, выступіў у Інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, наведаў Акадэмію навук БССР, дзе расказаў аб рабоце Саюза камуністаў Югаславіі па ажыццяўленню рашэнняў XIII з'езда СКЮ.

ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ

## АД ГОДА МІРУ — ДА ВЕКУ МІРУ

У Мінску адбылося пасяджэнне Камісіі па правядзенню ў Беларускай ССР Года Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і Міжнароднага года міру.

З дакладам аб выніках праведзенай работы выступіў старшыня камісіі, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч.

Правядзенне Міжнароднага года міру, адзначалася на пасяджэнні, было азнаменавана шырокім удзелам працоўных Беларусі ў антываенным руху. У рэспубліцы паўсюдна адбыліся «Маршы міру», шэсці і маніфестацыі, конкурсы палітычнага плаката, дзіцячага рысунка, маладзёжнай песні пад дэвізам «Ад Года міру — да веку міру». У прынятых на шматлікіх мітынгах і сходах рэзалюцыях рабочыя, працаўнікі вёскі, дзеячы навукі і культуры, студэнты і школьнікі горача адобрылі міралюбівы знешнепалітычны курс Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. У пісьмах і тэлеграмах, якія былі накіраваны амерыканскаму кангрэсу, прэзідэнту ЗША, выказаны асуджэнне мілітарысцкага курсу Вашынгтона, заклік спыніць па прыкладу СССР ядзерныя выпрабаванні, гонку ўзбраенняў на Зямлі і не дапусціць яе пераняcення ў космас.

Усяго ў рэспубліцы ў 1986 годзе праведзена амаль 18 тысяч антываенных акцый, у якіх удзельнічала каля 7 мільёнаў чалавек. Узраслі адлічэнні ў Савецкі фонд міру сродкаў, зароблены на «вахтах Міру», суботніках і нядзельніках, узносы асабістых зберажэнняў. Вялікая арганізатарская і палітычная работа ў барацьбе за мір праведзена ў арганізацыях, міністэрствах і ведамствах рэспублікі. Прадстаўнікі Беларускай С  прынялі ўдзел у міжнародных  ях, прысвечаных Міжнароднаму году міру.

На пасяджэнні адзначалася, што праведзеныя ў рэспубліцы мерапрыемствы ў рамках Міжнароднага года міру актывізавалі намаганні працоўных Беларусі ў барацьбе за справу міру на планеце. Іх уклад у гэту высакародную справу бу  і ў далейшым важкім і значным.

ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ

## НАВЕДАЛІ САЛІГОРСК

Дзесяцігадовы юбілей дружбы адзначылі шахцёрскія гарады-пабрацімы Салігорск і бельгійскі Ля Лувер, — 80-тысячны цэнтр бельгійскага вугальнага рэгіёна.

Па запрашэнню Салігорскага гарвыканкома дэлегацыя горада-пабраціма ў складзе намесніка бургамістра Аскара Ралана, адказнага прафсаюзнага работніка Анры Клауса і члена магістрата Марселя Юве наведала горад беларускіх шахцёраў.

Госці пабывалі на прадпрыемствах Салігорска, наведалі Палац культуры, бальніцу, школу, дзіцячы сад, музей, прынялі ўдзел у вяселлі сям'і Нямухіных — Веры Аляксандраўны і Яўгена Міхайлавіча, якія адзначылі залаты юбілей — пяцьдзесят год сумеснага жыцця.

МІТЫНГ-РЭКВІЕМ

## БАРАЦЬБІТАМ ЗА НАРОДНАЕ ШЧАСЦЕ

У пасёлку Косава, што на Брэстчыне, адбыўся мітынг-рэквіем, прысвечаны 60-годдзю рэвалюцыйнага выступлення мясцовых працоўных супраць разгрому польскімі ўладамі Беларускай сялянска-рабочай грамады.

...Трэцяга лютага 1927 года на вуліцы пасёлка выйшла больш за паўтары тысячы рабочых, служачых, сялян з навакольных вёсак. На рынку адбыўся мітынг.

Калі дэманстранты накіраваліся назад, каб разысціся па дамах, дарогу ім перагарадзілі паліцэйскі кардон, які адкрыў стральбу з вінтовак і кулямётаў па безабаронных людзях. Шэсць чалавек было забіта, некалькі дзесяткаў атрымалі цяжкія раненні.

Удзельнікі мітынгу-рэквіема, сярод якіх было каля дваццаці ветэранаў рэвалюцыйнага выступлення, ушанавалі памяць загінуўшых барацьбітоў. Да падножжа абеліска, узведзенага ў памяць загінуўшых патрыётаў, былі ўскладзены вянкі.

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## ВЫСТУПЛЕННЕ ПРАДСТАЎНІКА БССР

У жэнеўскім Палацы нацый праходзіць 43-я сесія Камісіі ААН па правах чалавека, удзельнікі якой абмяркоўваюць цяпер пытанне аб парушэннях правоў чалавека на акупіраваных арабскіх тэрыторыях, уключаючы Палесціну.

Выступаючы на ёй, прадстаўнік БССР В. Нікулін адзначыў, што палітыка Тэль-Авіва, накіраваная на анексію акупіраваных тэрыторый, закранае ўсе аспекты жыцця палесцінскага насельніцтва, яго эканамічныя, палітычныя, сацыяльныя і культурныя правы. Настойлівае і планамернае выкарыстанне сіяністамі самых жорсткіх метадаў каланіялізму вынікае з яго расісцкай ідэалогіі, у аснову якой па сутнасці пакладзены шавіністычны прынцып задавальнення нацыянальных патрэб з дапамогай грубой сілы, за кошт іншых нацый. Гэтыя процізаконныя злачынныя дзеянні шматразова асуджаліся Генеральнай Асамблеяй ААН.

Аднак шматлікія рашэнні Савета Бяспекі, Генеральнай Асамблеі ААН, Камісіі па правах чалавека, якія патрабуюць ад Ізраіля пакласці канец акупацыі арабскіх тэрыторый, прызнаць за народам Палесціны права на стварэнне сваёй уласнай незалежнай дзяржавы, спыніць агрэсіўныя дзеянні супраць арабскіх краін, застаюцца невыкананымі.

Дэлегацыя Беларускай ССР, сказаў у заключэнне В. Нікулін, рашуча асудзіла дзеянні Ізраіля на акупіраваных арабскіх тэрыторыях і патрабавала неадкладнага спынення масавых і грубых парушэнняў правоў чалавека.

ПРАПАНАВАЛІ ВУЧОНЫЯ

## МАДЭЛІРАВАННЕ АБ'ЕКТАЎ

Беспамылкова вызначыць трасы праектуемых асушальных сістэм, загадзя праверыць надзейнасць іх работы дазволіць мадэліраванне аб'ектаў па метаду, прапанаванаму навуковым супрацоўнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі Аляксандрам Навікавым. Ён не патрабуе ні будаўнічых матэрыялаў, ні грунтоўу, ні самой вады. А атрымаць мадэль можна ў лічаныя мінуты. Цяпер праекціроўшчыкам дастаткова толькі ўвесці ў камп'ютэр даныя палявых даследаванняў, ЭВМ хутка прааналізуе ўсе фактары і выдасць гатовыя рэкамендацыі.

АЙЧЫННАЯ МАРКА

## НОВЫЯ САМАЗВАЛЫ

Доследныя ўзоры 120-тонных кар'ерных самазвалаў сабраны на Беларускім аўтазаводзе, што ў горадзе Жодзіна Мінскай вобласці.

Ад сваіх папярэднікаў яны вызначаюцца павялічанай на 10 тон грузападымальнасцю, больш магутным — 1 200 конскіх сіл рухавіком, здольным працаваць у розных кліматычных умовах. Затое ўласная вага самазвалаў-гігантаў зменшана адразу на некалькі тон. Праз год новы грузавік пастаўяць на канвеер.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

СВЕТЛАГОРСК. Тут пабудаваны першы 16-павярховы жылы дом, які ўпрыгожыў цэнтральную плошчу. Па плану эканамічнага і сацыяльнага развіцця горада ў дванаццатай пяцігодцы намечана ўзвесці звыш 200 тысяч квадратных метраў жылля.

ГОМЕЛЬ. На чыгуначным вакзале пасажыраў, жыхароў і гасцей абласнога цэнтра хутка чакае прыемны сюрпрыз. Венгерскія сябры з Будапешцкага кааператыва дакладна-механічных і электронных прыбораў заканчваюць тут мантаж электронных табло — абсталявання сістэмы «Візінформ».

МІНСК. Аб міралюбівай палітыцы Савецкай дзяржавы з першых дзён яе нараджэння раскажа новая стужка «100 дзён працягу». Да работы над ёю на кінастудыі «Беларусьфільм» прыступілі майстры дакументальнага экрана рэспублікі.

БАБРУЙСК. Штогод трыкатажная фабрыка выпускае пяць с палавінай мільёнаў адзінак вырабаў. Сёлета асартымент прадукцыі папоўніцца 40 новымі мадэлямі, якія ўжо асвойваюцца.

СОВЕТСКАЯ ПРОМЫШЛЕННОСТЬ НА МИРОВОМ РЫНКЕ

# КТО ПРЕДСТАВЛЯЕТ ИНТЕРЕСЫ?

С начала 1987 года в Советском Союзе 20 министерств и ведомств, а также более 70 крупнейших объединений и предприятий получили прямой выход на внешние рынки. Они могут использовать для этого, как и прежде, услуги внешнеторговых организаций Министерства внешней торговли СССР и Государственного комитета СССР по внешним экономическим связям, выступающих в качестве посредника на основе агентских соглашений. Однако в большинстве министерств и предприятий активно идет процесс образования собственных внешнеторговых органов — хозрасчетных объединений и фирм.

Внешнеторговые объединения министерств и ведомств создаются со статусом юридических лиц и имеют самостоятельный баланс. Они строят отношения с советскими и иностранными организациями и фирмами на базе хозяйственных договоров. Объединения имеют право совершать все основные виды коммерческих операций в СССР и за границей, создавать свои филиалы и представительства, выступать в судах и арбитражах.

Цель проводимых объединениями операций — выполнение экспортно-импортных планов отрасли, совершенствование структуры поставок за рубеж товаров и услуг, повышение эффективности внешнеторговых сделок. Особо оговорено, что эти объединения проводят сопоставительный анализ отечественной и иностранной техники, снабжают предприятия отрасли информацией о требованиях мирового рынка. Тем самым производство в стране узнает своих потенциальных зарубежных потребителей и конкурентов. С этой же целью объединение проводит мероприятия по повышению качества экспортных товаров, заключает договоры на осуществление научных разработок, участвует в аттестации продукции и выработке технических стандартов и т. д. Другими словами, оно выступает активным проводником технической политики отрасли и страны.

Объединением управляет Совет во главе с генеральным директором. За счет прибылей в нем создаются фонды внешнеторговой деятельности и экономического стимулирования персонала.

Примерно те же задачи и функции имеет и внешнеторговая фирма предприятия или объединения предприятий. Разница лишь в том, что она — часть предприятия и потому действует, как правило, от его имени, а не со статусом юридического лица. Фирма может иметь самостоятельный баланс или быть на балансе предприятия в целом. Наконец, в ряде случаев предприятия и их объединения предпочли включить свои внешнеторговые фирмы в состав хозрасчетных внешнеторговых объединений министерств.

Часть таких объединений возникла путем передачи отраслевым министерствам однопрофильных всесоюзных внешнеторговых организаций из Министерства внешней торговли и Государственного комитета по внешним экономическим связям. Так, «Автоэкспорт» был целиком отдан автомобильной промышленности, «Трактороэкспорт» — тракторному и сельскохозяйственному машиностроению, «Стройматериалинторг» — промышленности строительных материалов, «Союзхимэкспорт» — химической промышленности, «Станкоимпорт» — станкостроительной и инструментальной промышленности, «Медэкспорт» — медицинской и микробиологической промышленности и т. д. В свою очередь, в таких министерствах, как, например, энергетического машиностроения, тяжелого и транспортного машиностроения, электротехнической промышленности, химического и нефтяного машиностроения, приборостроения, средств автоматизации и систем управления, в государственном агропромышленном комитете созданы или образуются самостоятельные внешнеторговые объединения с частичным привлечением специалистов из Министерства внешней торговли и Государственного комитета по внешним экономическим связям.

Предполагается, что эти новые организации будут осуществлять около одной пятой внешнеторгового оборота СССР, около двух пятых торговли машинами и оборудованием, в том числе две третьих всех машинно-технических поставок страны за рубеж.

**Максим РОЩИН.**
(АПН).

# РУКОВОДИТЕЛИ МАГАТЭ ПОДТВЕРЖДАЮТ:

## В СССР ПРИНЯТЫ НЕОБХОДИМЫЕ МЕРЫ БЕЗОПАСНОСТИ НА АТОМНЫХ РЕАКТОРАХ

**Такой вывод следует из заявлений, сделанных руководителями Международного агентства по атомной энергии (МАГАТЭ) в СССР после посещения Чернобыльской электростанции.**

— В первую очередь, — отмечал Генеральный директор МАГАТЭ Ханс Бликс, — нас интересовали вступившие в строй первый и второй блоки этой станции. Когда мы были в Чернобыле, они работали на полную мощность, и нам предоставили подробную информацию о всех изменениях, внесенных в технологию, а также в системы безопасности. Они, на наш взгляд, достаточны.

У руководителей МАГАТЭ не вызвала сомнений целесообразность пуска этих блоков после произведенных на них изменений. Меры, принятые на Чернобыльской станции, где используются атомные реакторы канального типа с графитовым замедлителем (РБМК-1000), можно разделить на две категории: организационные и технические.

Известно, что главная причина чернобыльской аварии — ряд допущенных работниками электростанции грубых нарушений правил эксплуатации реакторных установок. В этой связи в СССР принят комплекс мер, который должен с гарантией исключить повторение случившегося. Прежде всего введены строжайшая технологическая дисциплина, категорический запрет на какие-либо отклонения от установленных регламентов эксплуатации станций, усилен контроль за их работой, идет переподготовка обслуживающего персонала АЭС, в частности, на расширяющемся числе учебно-тренировочных центров, где создаются самые немыслимые ситуации, которые могут возникнуть при эксплуатации станции.

Что касается конструкции реакторов РБМК-1000, то она в принципе сохранена. Изменения сделаны в рамках существующей конструкции для того, чтобы снизить чувствительность установки к колебаниям режима эксплуатации, исключить возможность аварий, подобных чернобыльской. Такие меры осуществлены на всех действующих в СССР реакторах этого типа.

В частности, увеличено число поглощающих стержней, постоянно находящихся в активной зоне реактора, и приближено к ней стартовое расположение регулирующих стержней, благодаря чему в случае необходимости системы защиты будут включаться быстрее, чем это было раньше. Установлены некоторые дополнительные диагностические системы, контролирующие работу оборудования. Проверка, проведенная на первом блоке Чернобыльской АЭС, показала, что при этих изменениях несколько ухудшаются экономические показатели станции, но зато она работает с большей устойчивостью, гарантирующей повышенную безопасность. А это главное.

— У чернобыльского реактора много положительных аспектов, — подчеркивал на пресс-конференции в Москве руководитель отделения ядерной безопасности МАГАТЭ Моррис Розен. — Вместе с тем имеются определенные характеристики, которые могут привести к проблемам. Возникает вопрос: учли ли советские специалисты все эти проблемы при разработке проекта, решили ли их? Я даю на него положительный ответ.

Таким образом, реакторы РБМК-1000, по мнению руководства МАГАТЭ, обладают необходимым уровнем безопасности и ими можно пользоваться впредь. Однако в СССР принято такое решение: блоки с реакторами этого типа, сооружение которых начато на АЭС, будут введены в эксплуатацию с изменениями, предложенными специалистами. В частности, на Чернобыльской станции после дезактивации войдет в строй третий блок, а затем будет завершено строительство пятого и шестого.

Но все же в будущем предусматривается использовать главным образом корпусные водо - водяные реакторы (ВВЭР-1000) мощностью миллион киловатт. Для этой цели создается крупная производственная база по выпуску такой техники. Так, в Волгодонске (на юге европейской территории СССР) продолжается строительство завода атомного энергетического машиностроения «Атоммаш».

Примечательно, что примерно 30 процентов всего времени, отведенного на изготовление оборудования, на этом заводе уходит на контроль качества продукции. Контроль здесь ведется практически всем арсеналом неразрушающих методов, в том числе гамма-излучением, ультразвуком, цветной дефектоскопией, используются стенды для гидравлических испытаний корпусов реакторов.

На атомную энергетику в СССР работают также «Ижорский завод» в Ленинграде, другие предприятия...

— На Чернобыльской станции мы находились в непосредственной близости от четвертого, аварийного блока, заключенного в бетонный саркофаг, — рассказывал Моррис Розен. — И констатировали: выбросы радиоактивности здесь составляют всего три миллиюри в день, что в десять раз меньше уровня при нормальной эксплуатации любой атомной станции.

Система мощной вентиляции исключит образование в этом сооружении каких-либо скоплений газообразных радиоактивных продуктов и неожиданные выбросы в атмосферу. Она состоит из трех независимых линий, оснащенных системой фильтров с коэффициентом очистки в тысячу раз. Причем есть еще одна дополнительная автономная линия вентиляции. Запас надежности достаточный, чтобы избежать сюрпризов.

За всем происходящим в саркофаге ведется внимательное наблюдение. Одни диагностические системы осуществляют надзор за температурой, радиацией, следят, не проходят ли сквозь фильтры радиоактивные частицы. Другие нужны исследователям: надо знать, что происходит с радиоактивными остатками, как себя ведут в условиях радиации конструкции и материалы. Результаты этих исследований имеют важное значение для науки.

**Евгений ЕГОРОВ.**

ОБ ОЗОННОМ СЛОЕ, РАКЕТАХ И «ИСПОРЧЕННОЙ КОСМОНАВТАМИ» ПОГОДЕ

# ДИСТАНЦИОННОЕ ЗОНДИРОВАНИЕ ЗЕМЛИ

**О некоторых результатах атмосферных исследований, выполненных в последние годы из космоса, по просьбе корреспондента АПН рассказывает заведующий лабораторией Института физики атмосферы АН СССР, доктор физико-математических наук, летчик-космонавт, дважды Герой Советского Союза ГЕОРГИЙ ГРЕЧКО.**

— Один из экспериментов на станции «Салют-7» по дистанционному зондированию, в подготовке и проведении которого мне довелось участвовать, имел целью изучение малых газовых составляющих земной атмосферы. Главным образом нас интересовал озон.

Сравнительно тонкий его слой, расположенный на высоте 20—25 километров над поверхностью Земли, предохраняет все живое на планете от губительного ультрафиолетового излучения Солнца. Однако постепенно озонный слой истончается, а кое-где даже разрывается. Например, обнаружена гигантская «озонная дыра» над Южным полюсом.

Не исключено, что подобные дыры существуют и над Европой. Разрушение озона может иметь самые неприятные последствия: возрастет вероятность заболеваний, произойдет потепление на планете, что приведет к затоплению обширных прибрежных районов, изменению географии сельскохозяйственного производства.

Почему же истончается озонный экран?

Нередко в этом упрекают нас, космонавтов. Но ракеты при взлете пробивают озонный слой за считанные секунды и воздействуют лишь на незначительную его часть. Куда больший вред приносят сверхзвуковые самолеты. Разрушают озон различные аэрозоли: пыль, зола, металлические, почвенные частички, попадающие в атмосферу с вулканическими и промышленными выбросами.

Сегодня антропогенное воздействие на озонный слой приближается, видимо, к тому пределу, когда природа уже будет не в состоянии исправлять наши ошибки. Важно этот предел не проглядеть, количественно оценить масштабы глобального загрязнения воздушного бассейна.

Изучается озон еще и в целях повышения точности прогнозов погоды. Мы привыкли сетовать на ошибки синоптиков. Действительно, сегодня оправданность прогнозов не намного выше, чем тридцать лет назад. На метеорологов работают спутники, научно-исследовательские суда и самолеты. Информация обрабатывается на новейших ЭВМ, а достоверность прогнозов все-таки оставляет желать лучшего. В чем же дело? Метеорологами сегодня набирается в основном статистика. Тончайшая же структура атмосферы, процессы, в ней происходящие и влияющие на механизм переноса тепла между различными слоями атмосферы, остаются по сей день малоизученными. Озон как раз и является индикатором, по которому можно судить о составе и динамике атмосферы.

На «Салюте-7» в рамках эксперимента по озону атмосферу изучали во время захода солнца с помощью многоканального спектрометра. Одновременно его фотографировали через специальную призму с четырьмя светофильтрами и получали четыре разных изображения светила. Сразу после захода солнца снимали и видимый горизонт. В сумерках на нем заметны полосы различных цветов. Сочетание всех трех видов исследований дает наиболее полную картину расслоения атмосферы по примесям.

Оказалось, что в бедных озоном слоях атмосферы наблюдается повышенное содержание аэрозоля, и наоборот. Аэрозоль способствует разрушению озона и сам поглощает солнечную радиацию, причем в больших количествах, чем озон. Отсюда следует, что надо строго контролировать аэрозольные выбросы в атмосферу, определять зоны их распространения как по высоте, так и по площади.

Работы по дистанционному зондированию Земли, по изучению атмосферы продолжатся теперь на орбитальной станции «Мир», где кроме уже испытанной и хорошо себя зарекомендовавшей аппаратуры будут использоваться новые приборы, в частности, из Чехословакии, ГДР, Болгарии.

**Елена НЕЛЕПО.**
(АПН).

# ГЕНІЙ РАСІЙСКІ, ЗОРКА СУСВЕТНАЙ ПАЭЗІІ

**Слава, гонар і веліч Расіі — вялікі Пушкін. Яго імя святое для людзей многіх пакаленняў, перакананняў і нацыянальнасцей.**

**Паўтара стагоддзя мінула з таго ракавога дня, як на Чорнай рэчцы прагучаў подлы выстрал і загінуў паэт. 150 гадоў... Пушкінская паэзія стала не толькі для рускага, але і для ўсіх народаў эталонам мастацкай дасканаласці, узорам маральнага служэння мастака Айчыне. Змяняюцца пакаленні, і кожнае наступнае адкрывае для сябе свайго, блізкага і роднага Пушкіна.**

**Творы паэта гучаць на мовах усіх народаў нашай краіны. Асабліва вялікі ўплыў зрабіў Пушкін на беларускіх паэтаў, якія на чале з Янкам Купалам і Якубам Коласам прыйшлі ў літаратуру ў час рэвалюцыі 1905 года.**

**За гады Савецкай улады амаль усе асноўныя творы Пушкіна былі перакладзены на беларускую мову і многа разоў выдаваліся ў сотнях тысяч экземпляраў. Янка Купала пераклаў «Меднага конніка», Якуб Колас — «Палтаву», Аркадзь Куляшоў — «Яўгенія Анегіна», Кузьма Чорны — «Аповесці Белкіна». Лірыку і казкі Пушкіна перакладалі многія лепшыя паэты Беларусі: Максім Танк, Пятрусь Броўка, Алесь Якімовіч, Максім Лужанін і іншыя.**

**Творчасць Пушкіна жывіць не толькі літаратуру, але і мову, і тэатральнае мастацтва беларускага народа. На высакародных творах Пушкіна моладзь Беларусі, падобна старэйшым пакаленням, выхоўвае ў сабе пачуццё гордасці за свой народ і глыбокай любасці да сваёй Радзімы.**

## АНЧАР

**Дзе след жыцця ў пустыні знік,**
**На грунце бедным,**
**амярцвелым,**
**Анчар, як грозны вартаўнік,**
**Стаіць адзін на свеце цэлым.**

**Прырода высахшых пяскоў**
**Яго ў дзень гневу нарадзіла**
**І ад карэння да лістоў**
**Густой атрутай напаіла.**

**Дыхнуць паўдзённыя вятры —**
**Атрута капае расіцай,**
**Пад вечар стыне на кары**
**Густой, празрыстаю жывіцай.**

**К яму і птушка не ляціць,**
**А толькі вецер мімалётны**
**На дрэва смерці набяжыць —**
**І прэч імчыцца ўжо смяротны.**

**Калі ж пад спёкаю пяскоў,**
**Зблукаўшы, хмара тут заплача,**
**Атрутны дождж з яго лістоў**
**Сплывае на пясок гарачы.**

**Ды чалавека князь паслаў**
**Да дрэва смерці і пакуты.**
**І той пайшоў,**
**ледзь змрок апаў,**
**І раніцой прынёс атруты.**

**Прынёс ён згубную смалу,**
**Галлё з завяўшымі лістамі,**
**І пот па бледнаму чалу**
**Сцякаў халоднымі руччамі.**

**Прынёс — і аслабеў, і лёг**
**Пад засень будана старога,**
**І згінуў бедны раб ля ног**
**Уладара свайго ліхога.**

**А князь атрутай загадаў**
**Насыціць стрэлы-бліскавіцы,**
**І разам з імі смерць паслаў**
**Ён за суседнія граніцы.**

## НЯНЬЦЫ

**Сяброўка дзён маіх суровых!**
**Даўно, даўно, наяве, ў сне,**
**Сярод глушы лясоў сасновых**
**Адна чакаеш ты мяне.**
**Ты пад акном сваёй хаціны**
**Гаруеш, быццам на часах,**
**Марудзяць з кожнаю хвілінай**
**Пруткі ў паморшчаных руках.**
**Глядзіш ты часта на вароты,**
**На чорны і далёкі шлях.**
**Сум, прадчуванні і клапоты**
**Ляглі цяжарам у грудзях.**

# ПУШКІН У МІХАЙЛАЎСКІМ

Расказваюць, што кожную восень месячнымі начамі да дома Пушкіна ў Міхайлаўскім прылятае сава, садзіцца на вільчак даху і галасна плача. Менавіта плача. Ці не пра яе пісаў яшчэ і сам Пушкін: «То был ли сон воображенья, иль плач совы?..»

Старажытныя грэкі і рымляне лічылі саву сімвалам вечнасці. Што ж, вечнасць Міхайлаўскага перамагла, хоць і не адразу.

Пасля смерці паэта дом быў прададзены на злом. У Міхайлаўскім пасяліліся чужыя людзі. У канцы мінулага стагоддзя туды зноў вярнуўся сын паэта Рыгор Аляксандравіч. Пакідаючы Міхайлаўскае, ён пасадзіў у памяць бацькі вяз пасярэдзіне Зялёнага круга. Было гэта ў 1899 годзе, да 100-годдзя з дня нараджэння Пушкіна.

На рубяжы XX стагоддзя Міхайлаўскае было нарэшце набыта ў дзяржаўную ўласнасць. Але толькі пастанова Савецкага ўрада 1922 года адкрыла шлях да стварэння тут унікальнага музея-запаведніка комплексу. У Міхайлаўскім ачысцілі сажалкі, давялі да ладу алеі, кветнікі, сады, лугі. Ва ўзведзеным на старым фундаменце Доме-музеі паэта пачалі з'яўляцца першыя мемарыяльныя рэчы. Многія з іх былі перададзены нашчадкамі суседзяў Пушкіна па Міхайлаўскаму Осіпавых - Вульф, якія беражліва захоўвалі пушкінскія рэліквіі.

...Цямнее. У вокнах міхайлаўскага дома запальваюцца аг[illegible] ўзноўленая ніць мінулага, ніць часу в[illegible] нас да таго далёкага дня 1817 года, калі ліцэйскім выпускніком убег Пушкін у засень яловай алеі Ганібалаў.

Гэта была першая і, відаць, кароткая сустрэча юнага паэта з яго «приютом спокойствия, трудов и вдохновенья» — эпізод, поўны «белых плям» для біёграфаў рускага генія.

Другі прыезд [illegible] Пушкіна быў вымушаным. Цар у гневе за вольналюбівыя вершы і незалежны нораў адправіў паэта ў Міхайлаўскае пад нагляд паліцыі, у ссылку. К таму часу Пушкін ужо стаў кумірам Расіі, паэтам, чыё імя было на вуснах не толькі сталічнай моладзі, але і ўсёй прагрэсіўнай рускай інтэлігенцыі.

Ніхто, нават сам цар, не мог прымусіць Пушкіна жыць так, як ён не хацеў. Гэта незалежнасць выклікала злосць ворагаў, якія не маглі пераносіць яго свабоднай чалавечай прастаты, яго вострага языка, палітычных поглядаў, яго ўсёпранікаючай думкі. Пушкін прыязджае ў Міхайлаўскае, не ўступіўшы сваім ворагам ні пядзі завяванага. Ён прыязджае стомленым ад беднасці і вандраванняў, але не страціўшым мужнасці, пасталелым, гатовым да барацьбы. Не, ён не стаў жорсткім. Яго душа не страціла здольнасці верыць, спадзявацца, кахаць.

Міхайлаўскае сустрэла яго цішынёй, неабсяжнымі далямі, туманнымі, вільготнымі досвіткамі, чорнымі начамі і дрыготкім ззяннем месяца, які вісеў тут прама над падаконнікам. Паэт піша тут з новай страсцю, піша многа і рознае, піша рэчы неацэнныя.

Ці быў Пушкін такі ўжо адзінокі ў Міхайлаўскім? Думаецца, не.

Ён зачараваны тутэйшай прыродай, вывучае характары суседзяў, якіх пазней пакажа ў «Яўгеніі Анегіне», заседжваецца ў мілых яго сэрцу Осіпавых, што жылі ў суседнім сяле Трыгорскім, назірае быт сялян, ходзіць па святагорскіх кірмашах, слухае казкі любімай нянькі — простай і мудрай рускай жанчыны Арыны Радзівонаўны. Не, ён быў тут не адзін, а проста сам-насам з сабой. А дзіўны творчы ўзлёт — тут ён стварыў свой лірычны шэдэўр «Да мора», славутую драму «Барыс Гадуноў», якая вывела яго на прастор грамадскага служэння і высокага гістарызму, — гэты перамožны ўзлёт дазволіў справіцца з тым станам, які мог бы зламаць іншы, менш магутны дух. Доўгімі зімнімі вечарамі адзінота бегла ад яго яшчэ і таму, што ён ведаў: пра яго думаюць, яго помняць. «Ніхто з пісьменнікаў рускіх не паварочваў так сэрцамі нашымі, як ты», — піша Пушкіну ў Міхайлаўскае яго ліцэйскі сябар Дэльвіг. «Па данаму мне паўнамоцтву прапаноўваю табе першае месца на рускім Парнасе», — ляцяць да яго словы Жукоўскага. «Няжо Пушкін пакіне гэтую зямлю без паэмы?» — патрабавальна пытаў у лісце да яго паэт-рэвалюцыянер Рылееў. Іван Пушчын — сумленне рускай інтэлігенцыі, сумленне дзекабрыстаў — правёў тут шчаслівыя гадзіны, уважліва слухаючы сябра, які чытаў урыўкі з новых твораў. Наведаў яго тут і Дэльвіг.

Сюды, у Міхайлаўскае, прыйшла да Пушкіна страшная вестка пра жорсткае падаўленне паўстання дзекабрыстаў, паўстання лепшых людзей Расіі, сярод якіх у Пушкіна было нямала сябро[illegible] [illegible]та тады на палях рукапісу паэта ўзнік [illegible] юнак — шыбеніца з контурамі пяці павешаных і абарваным радком: «І я б мог...»

Ёсць нейкі асобы сэнс у тым, што Пушкін закончыў «Барыса Гадунова» восенню 1825-га, што папярэднічала паўстанню дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу. Ёсць нейкі а[illegible]ы сэнс і ў гэтых грозных закліках: «На[illegible] народ! у Крэмль! у царскія палаты!»

Так, душою паэт быў з паўстаўшымі і сказаў аб праве народа жыць больш дастойна, чысцей за некалькі месяцаў да таго, як расійскі трон захістаўся перад адкрытым выступленнем дваранскай апазіцыі.

Неўзабаве Пушкін пакінуў Міхайлаўскае. Звонку ўсё выглядала так, быццам цар дараваў паэту, але на самай справе вярнуўся ён у старую **сталіцу недараваным**, хоць і незламаным. І доўга яшчэ свяціў яму ў дарозе цёплы агенёк роднага Міхайлаўскага, сагрэўшы ў нягодах апошняга дзесяцігоддзя.

Пушкін прыязджаў яшчэ аднойчы ў гэтыя благаславенныя мясціны жалобным для сябе днём ранняй вясны 1836 года, калі прывёз у Святыя Горы труну з целам маці, падымаўся па сцёртай каменнай лесвіцы на вяршыню ўзвышша да сцен старадаўняга сабора. І пакінуў сабе ў той дзень месца на родавых магілках. Прадчуванне яго, на жаль, хутка збылося...

Штогод, у дзень нараджэння Пушкіна, у Міхайлаўскае з'язджаюцца шматтысячныя паклоннікі паэта. Людзі прыходзяць да Пушкіна як да сябра і нашага сучасніка, пацвярджаючы тым самым словы вялікага крытыка мінулага стагоддзя В. Бялінскага: «Пушкін належыць да вечна жывых і рухомых з'яў, якія не спыняюцца на той кропцы, на якой застала іх смерць, а працягваюць развівацца ў свядомасці грамадства...»

**Юрый ОСІПАЎ.**

## ВЯЗЕНЬ

**Сяджу я за кратамі дні і гады,**
**Спазнаўшы няволю арол**
**малады.**
**Мой сумны таварыш махае**
**крылом,**
**Дзяўбе пад акном акрываўлены**
**корм.**
**Дзяўбе і кідае, за краты**
**глядзіць,**
**Нібы пра адно са мной марыць**
**і сніць.**
**Заве мяне позіркам,**
**крыкам сваім**
**І хоча сказаць мне:**
**«Давай паляцім!**
**Мы вольныя птушкі; пара, брат,**
**пара!**
**Туды, дзе за хмарай бялее**
**гара,**
**Туды, дзе сінее краіна мая,**
**Дзе вецер гуляе свабодны...**
**ды я!»**

***

**Я помнік збудаваў сабе**
**нерукатворны,**
**Не зарасце людская да яго**
**трапа,**
**Вышэй чалом сваім ён узняўся**
**непакорным**
**Александрыйскага слупа.**

**Не, я ўвесь не памру — у ліры**
**застанецца,**
**Прах перажыўшы мой, душы**
**пявучы дар —**
**І слаўны буду я, пакуль на**
**цэлым свеце**
**Жыць будзе хоць адзін пясняр.**

**Вядомы буду я па ўсёй Русі**
**вялікай,**
**І імя маё кожны назаве язык,**
**І горды ўнук славян, і фін,**
**і сёння дзікі**
**Тунгус, і стэпаў друг калмык.**

**За гэта доўга буду любы я**
**народу,**
**Што лірай лепшыя надзеі**
**абуджаў,**
**Што ў мой суровы век**
**праславіў я свабоду**
**І міласць да няшчасных зваў.**

**Загаду божаму, о муза, будзь**
**слухмянай,**
**Не бойся крыўды, лаўраў не**
**жадай,**
**Не пераймайся славай і**
**хлуснёй паганай**
**І ў спрэчцы дурня не чапай.**

*Вершы на беларускую мову пераклаў М. ТАНК.*







**Свята шануюць памяць пра вялікага паэта ў нашай краіне. Сёлета, у дзень памяці А. Пушкіна — 10 лютага, тысячы людзей сабраліся ля помніка паэту ў Маскве, (здымак першы), у Міхайлаўскім, дзе працуе музей-запаведнік А. Пушкіна.**

**У МАСКВЕ ВУЧАЦЦА БУДУЧЫЯ МАЙСТРЫ КІНО З РОЗНЫХ КРАІН**

# ІНСТЫТУТ ПРЭСТЫЖНЫ І ПАПУЛЯРНЫ

Лета 1986 года назаўсёды, трэба думаць, застанецца ў памяці грэка Грыгорыяса Карыадзінакіса, філіпінца Хасе Севільі Хо, егіпцяніна Ашрафа Саміра і калумбійкі Марыі Валенсіі Аранча. Прайшоўшы складаны творчы конкурс, яны сталі студэнтамі Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве (УДІК), дзе разам са сваімі равеснікамі будуць авалодваць прафесіяй кінарэжысёра ў творчай майстэрні вядомага пастаноўшчыка Юрыя Озерава.

Упершыню замежныя студэнты з'явіліся ў інстытуце кінематаграфіі ў 1944 годзе. Гэта былі трое маладых людзей з Манголіі. А цяпер на пяці факультэтах — пастановачным (тут рыхтуюць рэжысёраў і акцёраў), аператарскім, сцэнарна-кіназнаўчым, мастацкім і эканамічным — вучацца каля 200 студэнтаў з больш чым 40 краін. У асноўным гэта прадстаўнікі дзяржаў, што сталі на шлях развіцця, але ёсць і тут і тыя, хто прыехаў з краін, якія прынята прылічваць да эліты сусветнага кіно (напрыклад, з Італіі). Іншаземцы ёсць і сярод аспірантаў, стажораў (тут, дарэчы, нямала кінематаграфістаў з Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі).

«Інстытут кінематаграфіі можа прымусіць свайго французскага сабрата (інстытут вышэйшага кінанавучання) пазелянець ад зайздрасці, таму што мае вялікія сродкі і магчымасці і карыстаецца высокім аўтарытэтам за мяжой», — так напісаў карэспандэнт французскага часопіса «Экспрэс», пабываўшы ў Маскве. З многіх іншых кінашкол свету маскоўскую вызначае таксама акадэмічная сістэма падрыхтоўкі: выпускнікі яе, атрымліваючы дыплом аб вышэйшай адукацыі, маюць права працаваць і па розных гуманітарных спецыяльнасцях.

Навучанне ў інстытуце ідзе ў так званых «творчых майстэрнях», кіруюць імі аўтарытэтныя савецкія кінематаграфісты. Сярод майстроў-рэжысёраў сёння Сяргей Бандарчук, Леў Куліджанаў, Марлен Хуцыеў, Сяргей Салаўёў, Уладзімір Наумаў, творчыя майстэрні студэнтаў-акцёраў узначальваюць Аляксей Баталаў і Яўгеній Мацвееў, аператараў — Аляксандр Гальперын, Вадзім Юсаў... Творчыя майстэрні, як правіла, інтэрнацыянальныя: разам з 8—10 савецкімі студэнтамі вучацца 3—5 іншаземцаў.

У інстытуце ёсць свая кінастудыя, павільёны, цэхі і лабараторыі якой аснашчаны сучаснай кінатэхнікай. У яе рабоце, натуральна, заняты прадстаўнікі ўсіх факультэтаў, а значыць, і ўсіх кінаспецыяльнасцей. Як правіла, інстытуцкія карціны цалкам ствараюцца студэнцкімі сіламі, з прыцягненнем стажораў і аспірантаў.

Педагагічным вопытам інстытута кінематаграфіі, яго вучэбнымі праграмамі і дапаможнікамі карыстаецца з кожным годам усё больш кінаінстытутаў свету. Аб гэтым можна меркаваць хаця б па кангрэсах СІЛЕКТ — Міжнароднага цэнтра сувязі школ кіно і ТБ (Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі — адзін з заснавальнікаў і актыўны член гэтай арганізацыі). Так, пасля Вашынгтонскага кангрэса 1978 года кінафакультэты шэрагу універсітэтаў ЗША звярнуліся да сваіх маскоўскіх калег з просьбай прадаставіць ім метадычныя матэрыялы для вядзення курсу гісторыі савецкага кіно.

Але найбольшую цікавасць выклікае сістэма падрыхтоўкі рэжысёраў. Пад кіраўніцтвам майстра за гады вучобы студэнт стварае, як правіла, тры работы. Гэта вучэбны, курсавы і дыпломны фільмы — каля гадзіны экраннага часу. Нярэдка студэнты-іншаземцы здымаюць гэтыя карціны ў сябе на радзіме; бывае, што іх нават уключаюць у праграмы міжнародных кінафестываляў. Так, напрыклад, у 1986 годзе на Ташкенцкім фестывалі краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі Судан быў прадстаўлены фільмам «Дзеці сонца» маладога рэжысёра Каміна Вагдзі, дыпломніка творчай майстэрні Юрыя Озерава.

Многія студэнты, асабліва з маладых краін, прытрымліваюцца той думкі, што ўжо ў студэнцкую пару ім трэба здымаць карціны, якія тычацца вострых сацыяльных і палітычных праблем. Вось толькі самыя свежыя прыклады. Малады рэжысёр з Беніна Ананда Севярын прысвяціў стужку лёсу легендарнага афрыканскага лідэра Патрыса Лумумбы («Гісторыя аднаго жыцця»), сірыец Ханна Іса Тааме ў карціне «Хто вінаваты?» аналізуе трагічныя падзеі ў сённяшнім Ліване, а афганцы Сатар Зада (аператар) і Саід Вазір (рэжысёр) у фільме «Хто з кім?» закранаюць пытанні класавай барацьбы на сваёй радзіме.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў сценах інстытута зараджаліся нацыянальныя кінематаграфіі многіх краін — Эфіопіі, Сенегала, Малі, Гвінеі і г. д. Сярод выпускнікоў Маскоўскага кінаінстытута — майстры, без якіх немагчыма ўявіць сёння сусветны кінематограф. Гэта сенегалец Сембен Усман, мексіканцы Серхіа Альховіч і Гансалес Артэга, маліец Сулейман Сісэ, нябожчык Конрад Вольф, які ўзначальваў Акадэмію мастацтваў ГДР, чыліец Себасцьян Аларкон, паляк Ежы Гофман, цэлая кінематаграфічная плеяда (больш за сто чалавек) у Балгарыі, цяперашні рэктар Каірскага кінаінстытута і намеснік міністра культуры Арабскай Рэспублікі Егіпет Мустафа Мухамед Алі і многія-многія іншыя... Больш за тысячу чалавек з 56 краін.

— Імёны многіх выпускнікоў, якія занялі вядомае месца ў свеце кіно, высока ўзнялі прэстыж нашага інстытута, зрабілі яго вельмі папулярным, — гаворыць прарэктар інстытута Таццяна Сторчак.—Таму ўступны конкурс на ўсіх факультэтах вялікі, ён даходзіць іншы раз да некалькіх дзесяткаў чалавек на месца. Мы стараемся выбраць самых дастойных, стараемся ўбачыць у нашых абітурыентаў задаткі мастацкага мыслення, зразумець, якая ступень іх грамадзянскай, жыццёвай сталасці (сярод паступаючых, скажам, на рэжысуру часта сустракаюцца абітурыенты ці з вялікім стажам, ці тыя, хто ўжо мае вышэйшую адукацыю). З такімі ж прыкладна крытэрыямі мы падыходзім і да маладых людзей, што прыязджаюць да нас з-за мяжы. Мы хочам бачыць сярод іх людзей таленавітых, эрудзіраваных, адукаваных. Нам важна, каб будучыя студэнты інстытута былі знаёмы з жыццём не завочна, адчувалі Час і ведалі, чым жыве іх народ. Таму што ім трэба будзе неўзабаве гаварыць ад яго імя на інтэрнацыянальнай мове кіно.

**Галіна ФАДЗЕЕВА.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**Дзесяткі палотнаў — ад дыпломнай работы да тых, якія яшчэ захоўваюць пах свежай фарбы, — прадстаўлены на персанальнай выстаўцы твораў народнага мастака СССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР Міхаіла Савіцкага. Экспазіцыя ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР пачынае цыкл выставак работ майстроў мастацтваў Беларусі і іншых саюзных рэспублік, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.**

**Адкрываецца яна манументальным палатном «Аднадушнасць», дзе мастак звяртаецца да вобраза правадыра працоўнага народа У. І. Леніна, хвалюючых дзён нараджэння новага свету. Разам са стаўшымі класікай савецкага жывапісу карцінамі «Партызаны», «Партызанская мадонна», «Віцебскія вароты» дэманструюцца новыя творы — партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, акцёра Міхаіла Ульянава.**

**Асобае месца ў работах апошніх гадоў займае трыпціх «Агрэсія», які прасочвае крывавую пераемнасць злачынстваў фашыстаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, амерыканскіх інтэрвентаў у В'етнаме і ізраільскіх захопнікаў на арабскіх землях. Паказаўшы катаў розных часоў, майстар падкрэслівае падабенства іх аблічча, іх злачынствы перад чалавецтвам. Удала дапаўняюць кампазіцыю, надаючь ёй выкрывальную дакументальнасць фатаграфіі, якія абышлі ўвесь свет, зробленыя рэпарцёрамі ў гарачых кропках планеты.**

**Зусім у новым святле паўстае перад гледачом творчасць М. Савіцкага ў такіх яго апошніх работах, як «Узнагароджанне граматай», «Візіт». Тут мастак у гратэскавай і іранічнай форме змог данесці да гледача тыя пачуцці, якія выклікаюць у яго некаторыя адмоўныя з'явы нашага жыцця.**

**Усяго ў экспазіцыі прадстаўлена каля сарака твораў, кожны з якіх высвечвае новыя грані невычэрпнага таленту майстра.**

**НА ЗДЫМКАХ: М. САВІЦКІ. «Партрэт паэта Пімена ПАНЧАНКІ»; «Куст ружаў»; «Сям'я».**



**СТВОРАНА ЎСЕСАЮЗНАЕ МУЗЫЧНАЕ ТАВАРЫСТВА**

# РАЗБУРЫЦЬ НЯБАЧНЫ БАР'ЕР

Леташняй восенню ў СССР створана Усесаюзнае музычнае таварыства. Новая грамадская арганізацыя аб'яднала прафесійных музыкантаў, дзеячаў музычнай культуры, педагогаў, вучняў, удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і проста шматлікіх аматараў музыкі.

Першы сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР Ціхан ХРЭННІКАЎ у гутарцы з карэспандэнтам Агенцтва друку Навіны Ірынай МАКАРЭВІЧ дзеліцца сваімі меркаваннямі з прычыны нараджэння Таварыства.

Паводле слоў Ціхана Хрэннікава, само жыццё прывяло да неабходнасці стварэння такога Таварыства, якое будзе садзейнічаць выхаванню людзей, далучэнню іх да высокай музычнай культуры, і ў першую чаргу гэта тычыцца падрастаючага пакалення. Словам, важна, каб актывісты з Музычнага таварыства дайшлі да школы, прафесійна - тэхнічных вучылішчаў, памаглі знайсці ключ да сэрцаў юных...

А для паспяховага эстэтычнага выхавання моладзі ёсць усе ўмовы: у краіне адкрыты кансерваторыі і вучылішчы, музычныя школы, арганізаваны сімфанічныя і камерныя аркестры, тэатры оперы і балета. Мы даўно развіліся з панящем музычная правінцыя.

Мне ўяўляецца надзвычай важным, гаворыць Ц. Хрэннікаў, каб Музычнае таварыства перш за ўсё ўзнавіла страчаныя кантакты паміж стваральнікамі музыкі, яе выканаўцамі і слухачамі. І формы гэтых кантактаў могуць быць самыя розныя: галоўнае — разбурыць нябачны бар'ер, які часта вырастае паміж артыстам і слухачом.

Галоўныя задачы Музычнага таварыства можна акрэсліць так: прапаганда лепшых узораў савецкай і сусветнай музычнай культуры, захаванне музычнай нацыянальнай спадчыны і адраджэнне традыцый масавых харавых спеваў, сямейных спеваў, хатняга музіцыравання, выданне і прапаганда музычнага фальклору, аказанне дапамогі сям'і і школе ў эстэтычным выхаванні дзяцей і падлеткаў. Каб усё гэта ажыццявіць, будуць створаны новыя клубы па інтарэсах, музычныя універсітэты і лекторыі, Дамы музыкі і народных філармоній, аматарскія музычныя калектывы па месцу жыхарства, будуць праводзіцца разнастайныя дыскусіі і канферэнцыі па праблемах музыкі...

Заснавальнікамі масавай добраахвотнай арганізацыі — Усесаюзнага музычнага таварыства — выступілі Саюз кампазітараў СССР, Міністэрства культуры СССР, Цэнтральны Камітэт камсамола, Усесаюзны Цэнтральны Савет Прафесіянальных Саюзаў. Старшынёй цэнтральнага праўлення Таварыства выбрана салістка Вялікага тэатра оперы і балета СССР Ірына Архіпава.

СПАДЧЫНА

# ХРАМ—КРЭПАСЦЬ

Кожны куток беларускай зямлі мае сваё непаўторнае аблічча. Для мяне Гродзеншчына — гэта ў першую чаргу серабрыстая стужка Нёмана і вялікая колькасць архітэктурных помнікаў. І, напэўна, у многіх складзецца такое ўражанне пасля падарожжа па гэтым цудоўным краі.

Ледзь развітаўся з амаль ужо аднаўленым Лідскім замкам, як поезд прывёз нас на станцыю Скрыбаўцы, што ў Шчучынскім раёне. Адгэтуль трэба яшчэ прайсці каля двух кіламетраў да вёскі Мураванка, там і знаходзіцца адзін з вельмі цікавых помнікаў беларускай готыкі — храм-крэпасць. Ён пабудаваны на ўзвышшы, і таму заўважаеш яго ўжо здалёк.



Пачынаючы з XIX стагоддзя і па сённяшні дзень мураванка, як любоўна назвалі помнік у народзе, прыцягвае да сябе ўвагу гісторыкаў, архітэктараў, мастакоў і краязнаўцаў. Хто ж і калі яго пабудаваў? Недахоп і супярэчлівасць пісьмовых крыніц прывялі некаторых даследчыкаў XIX стагоддзя, якія цікавіліся мураванкай, да заключэння, што яна ўзведзена ў пачатку XV стагоддзя. Такой жа думкі прытрымліваецца сучасны краязнаўца В. Супрун. У гэты час, лічыць ён, пабудаваць храм мог князь Вітаўт. Немалаважным з'яўляецца той факт, што калі ў 1382 годзе князь Вітаўт, пераапрануты жанчынай - служанкай, уцёк з Крэўскага астрога, то пэўны час хаваўся ў глухіх беларускіх вёсках на поўдзень ад Крэва. Са Слонімшчыны ж накіраваўся за дапамогай у крыжацкі стан. Стаўшы вялікім князем, Вітаўт наведваў Слонімшчыну ў 1407 і 1409 гадах. Магчыма, што ўспамін пра падзеі, звязаныя з трывожным і рызыкоўным часам у жыцці Вітаўта, і паслужыў прычынай будаўніцтва крэпасці - сімвала менавіта па яго волі.

Ёсць і іншае меркаванне. Даследчыкі беларускай архітэктуры сцвярджаюць, што мураванка пабудавана ў першай палове XVI стагоддзя. Тады ж былі ўзведзены абарончыя храмы з чатырма рагавымі вежамі ў вёсцы Сынкавічы, што ў Зэльвенскім раёне на Гродзеншчыне, а таксама на рацэ Супрасль, недалёка ад Беластока (цяпер тэрыторыя ПНР). Родапачынальніцай жа абарончых збудаванняў падобнага тыпу стала славутая полацкая Сафія, якая была перабудавана ў канцы XV стагоддзя з сямівежавага храма ў пяцівежавы.

Шукаць прычыны, якія абумовілі будаўніцтва мураванкі і падобных ёй помнікаў менавіта ў канцы XV — першай палове XVI стагоддзяў, а не раней ці пазней, трэба перш за ўсё ў тагачаснай складанай палітычнай абстаноўцы. Тады вельмі часта ў межы Беларусі ўрываліся крымскія татары, якія ішлі ў багатыя і густанаселеныя тутэйшыя землі, каб захапіць здабычу і палонных. Крымскія татары за 95 гадоў (з 1474 па 1569) зрабілі 75 паходаў на землі Вялікага княства Літоўскага. Толькі з 1500 па 1530 год яны 14 разоў нападалі на Беларусь. Акрамя знешняй небяспекі, сваю ролю адыграла таксама Рэфармацыя — вастрэйшая рэлігійная барацьба, якая адбывалася ў той час. Менавіта тады ў гарадах і сельскай мясцовасці на Беларусі ўзнікла шмат абарончых храмаў.

Не адну спробу [illegible]лі даследчыкі, каб даве[illegible]а, якія дарогі прывялі ў вёску Мураванку невядомага таленавітага архітэктара. Аднак яго імя застаецца і па сёння не раскрытым. Мінулі стагоддзі, і нашчадкі дойліда добра ўяўляюць, якая цяжкая задача стаяла тады перад ім. Трэба было не толькі стварыць х[illegible] для адпраўлення культавых абрадаў, але яшчэ прыстасаваць пабудову для абароны. Дойлід справіўся з усімі праблемамі. Храм-крэпасць узведзены з цэглы-пальчаткі ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Калі глядзіш на помнік, складваецца ўражанне, што дойлід хацеў упрыгожыць дэкаратыўнымі элементамі ўсе плоскасці сцен. Магчыма, гэта ідзе ад традыцыйнага народнага мастацтва, для якога характэрна імкненне да святочнасці і ўрачыстасці.

У аснову дэкарацыі фасадаў мураванкі пакладзена ўмелае чаргаванне ніш разнастайных памераў і абрысаў. Пабеленыя нішы на чырвоным фоне цагляной муроўкі ўтвараюць своеасаблівую гульню фарбаў і светаценяў. Прычым яны заглыблены ў сцены з такім разлікам, каб не выдаць іх сапраўднай таўшчыні і стварыць характэрнае для готыкі ўражанне лёгкасці і тонкасці. Жывапіснасць яе фасадаў значна ўзмоцнена ўжываннем побач з цэглай чырвонага колеру перапаленай цэглы цёмна - ліловага адцення. З гэтай цэглы на фасадах выкладзены ў шахматным парадку своеасаблівы дэкаратыўны паясок.

З гістарычных крыніц мы ведалі, што раней уваход зачыняўся жалезнымі дзвярыма і абарончай кратаю - герсай, што на ланцугах спускалася зверху праз спецыяльны праём. Аднак зараз гэтай шчыліны ўжо няма.

Яшчэ адзін крок, і мы ўнутры асноўнага памяшкання помніка. Яго цэнтральны неф перакрыты скляпеннямі, нервюры якіх сваім малюнкам напамінаюць зорку. У бакавых нефах ужыты таксама вельмі арыгінальны від скляпенняў. Іх пірамідальныя ўпадзіны напамінаюць пчаліныя соты. У сваю чаргу скляпенні абапіраюцца на стройныя слупы і сцены.

Па вінтавой лесвіцы можна падняцца ў адну з вежаў. Прыступка за прыступкай, і мы ўжо мінулі два ярусы байніц. Акрамя вежаў, байніцы меліся ў сценах на паддашку і заходнім франтоне. Праўда, звестак, якія б сведчылі, што байніцы былі хоць раз выкарыстаны па свайму прамому прызначэнню, няма. Аднак гэта не значыць, што мураванка не падвяргалася выпрабаванням. Так, у 1656 годзе (руска-польская вайна) яна была значна пашкоджана і аднаўлена толькі праз некаторы час. У 1706 годзе войскі Карла XII, ідучы праз Жалудок да Палтавы, па загаду караля абстралялі храм-крэпасць. Пасля гэтых падзей помнік запусцеў і быў аднаўлены толькі ў першай палове XIX стагоддзя. Але яго вонкавы выгляд значна змяніўся. Такім помнік захаваўся да нашых дзён.

**Алесь КУШНЯРЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: храм-крэпасць у вёсцы Мураванка.**

**Фота У. СУЦЯГІНА.**

## СПОРТ

Пасля дзевяцігадовага перапынку савецкі спартсмен Мікалай Гуляеў вярнуў нашай краіне званне чэмпіёна Еўропы на каньках у класічным мнагабор'і. Яго пераможная сума — 168,305 ачка. Спаборніцтвы прайшлі ў Нарвегіі.

На першынстве свету ў спрынтарскім мнагабор'і Ігар Жалязоўскі, які ўжо двойчы станавіўся чэмпіёнам на гэтых спаборніцтвах, сёлета заваяваў бронзавы медаль на дыстанцыі 1000 метраў.

Не перастае здзіўляць спартыўным даўгалеццем фехтавальшчык Аляксандр Раманькоў. На міжнародным турніры ў Парыжы, які адначасова быў і адным з этапаў Кубка свету, мінчанін атрымаў упэўненую перамогу. У фінале ён выйграў у француза Ф. Амнеса з лікам 11:9.

Кожны раз розыгрыш Кубка Балтыкі па ручному мячу збірае мацнейшыя каманды свету. І тым больш прыемнай для нас стала чарговая перамога зборнай СССР. У рашаючым матчы яна выйграла ў каманды ГДР — 27:17. Тут вызначыўся ігрок мінскага СКА Аляксандр Каршакевіч. А яго таварыш па камандзе Аляксандр Тучкін і польскі спартсмен Богдан Вента закінулі ў вароты сапернікаў па 29 мячоў і адзначаны арганізатарамі спаборніцтва.

Таварыскую сустрэчу ў закрытым памяшканні стадыёна Шпортхале правялі лёгкаатлеты Савецкага Саюза і ГДР. Удзельнікі гэтых спаборніцтваў паказалі ў многіх відах высокія вынікі. Сярод пераможцаў, заслугоўвае ўвагі выступленне мінчаніна Генадзя Валюкевіча ў трайным скачку — 17 метраў 5 сантыметраў.

Адзначым удалае выступленне спартсменаў рэспублікі і на ўсесаюзных першынствах.

Ігар Каныгін з Віцебска чарговы раз стаў чэмпіёнам СССР па класічнай барацьбе ў Омску.

Перад заключнымі гульнямі фіналу розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў, якія пройдуць у Турцыі, валейбалісткі мінскага «Камунальніка» на першынстве краіны выйгралі ў маскоўскага «Дынама» і ташкенцкага «Аўтамабіліста» і ўваходзяць у лік лідэраў.

А на розыгрышы Кубка СССР па біятлону чэмпіёнамі краіны сярод юніёраў у эстафеце 3х7,5 кіламетра сталі Андрэй Папкоў, Алег Рыжанкоў і Валерый Шаталін.

# ТЭАТР—ЛЮБОЎ МАЯ

Так могуць сказаць многія маладыя краснапольцы. Любяць і ганарацца яны сваім народным тэатрам. Сёлета ў сакавіку споўніцца 25 год з дня прысваення яму гэтага ганаровага звання. Той, хто аднойчы наведаў спектаклі тэатра, абавязкова прыйдзе сюды зноў.

Сваю гісторыю Краснапольскі народны тэатр пачаў у 1918 годзе. Арганізатарамі яго былі настаўнік прыродазнаўства і чарчэння Краснапольскай адзінай працоўнай школы Аляксандр Грубе і настаўнік Ясенскай пачатковай школы Васіль Шышалевіч. Першы спектакль — «Мікітаў лапаць» па п'есе М. Чарота — быў паказаны ў памяшканні пажарнага дэпо.

Асобае месца ў рэпертуары тэатра займае патрыятычная тэма. Вялікім поспехам карыстаецца спектакль «Твой заўтрашні дзень». Пра маладога падпольшчыка Івана Галярку, які ўключыў у час нямецка-фашысцкай акупацыі гарадскую радыёсетку ў трансляцыю Масквы.

Сезонам творчых удач стаў для калектыву і 1986 год. Ён падрыхтаваў пяць спектакляў, сярод іх «Васа Жалязнова» М. Горкага, «Вечар» А. Дударава, «Таблетку пад язык» А. Макаёнка. Тройчы самадзейныя артысты выступалі на рэспубліканскай сцэне, 36 спектакляў паказалі гледачам раёна. Калектыў тэатра стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Па адзінадушнаму рашэнню атрыманую прэмію калектыў перадаў у Савецкі фонд міру.

# ВОСЬ ДЫК УЛОЎ!

Рыбалкай Сяргей Артысюк захапляецца з дзяцінства. Бацька часта згадваў: першую плотачку ён злавіў у такім юным узросце, што дома ніхто і не паверыў, калі прынёс яе з рэчкі. «Побач з маёй вёсачкай Глінна працякаюць Дняпроўска-Бугскі канал і рака Піна, — тлумачыць Сяргей.—Ну як тут было не прыахвоціцца вудзіць рыбу, калі мы, хлапчукі, зранку і да позняга вечара [illegible]падалі на маляўнічых [illegible]ерагах».

А цяпер інжынер Іванаўскай райаграпрамтэхнікі Сяргей Артысюк — лепшы рыбак у сваёй вёсцы. А можа і ў раёне? Сцвярджаць апошняе не бяруся. Але трафеі Сяргея свед[illegible]ь пра многае. Не адзін [illegible] з глыбокіх ям-віроў цягаў ён сямікілаграмовых, метровай даўжыні вусатых самоў.

Толькі такой здабычы, якая трапілася на яго кручок літаральна днямі на Завышанскім возеры, Сяргею да гэтага не выпадала. Вось як гэта было.

Артысюк разам з такім жа аматарам зімовай рыбалкі Васілём Кацярынічам не выпадкова выбралі Завышанскае. Апошнім часам там добра браліся ляшчы, трапляліся і шчупакі. Таму акрамя звычайных вудачак прыхапілі па некалькі жэрліц. Не забыліся і пра жыўцоў-карасікаў.

...Прыехалі яшчэ ў прыцемках. А суботні ранак парадаваў яркім сонцам і бліскучым інеем, што ахутаў усе навакольныя лясы. Надвор'е ўсяляла надзею на ўдачу.

Прасвідравалі лункі, закінулі вудачкі, жэрліцы з жыўцамі. А вось і першая здабыча на Сяргеевых кручках: два ладныя паўкілаграмовыя шчупачкі. І тут здарылася самае нечаканае. Сігнальны флажок адной з жэрліц упаў на снег. Сяргей — подбегам да лункі, падсёк. Рукі адразу адчулі цяжар буйной рыбіны. Яна білася пад лёдам, імкнулася адарваць кручок. То хадзіла кругамі, то рэзка нырала ў глыбіню.

На дапамогу прыбег Васіль Кацярыніч. Разам яны падвялі шчупака да лункі, зачапілі яе спачатку адным, затым другім багорчыкамі.

Шчупак ніяк не пралазіў у вузкую лунку. Давялося свідраваць побач яшчэ некалькі. Здавалася, усё: здабыча зараз апынецца на лёдзе. Але рыбіна так крутнулася, што вырвала з рук адзін багорчык. Сякерай пайшоў той на дно.

І ўсё ж рыбакі выцягнулі шчупака. Дома ўзважылі яго, абмералі. Аказалася тая рыбіна «ростам» метр і дзесяць сантыметраў і вагой амаль дзесяць кілаграмаў. Такога вадзянога гіганта на вадаёмах Іванаўшчыны ўзімку яшчэ ніхто не выцягваў.

Калі мы сталі фатаграфаваць рэдкі ўлоў, Сяргей ледзь мог трымаць шчупака ў выцягнутых руках, пазіруючы перад аб'ектывам.

**В. ЖУШМА.**

**Фота аўтара.**



РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 211